www.nv-online.info

*На простор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
**Якуб КОЛАС**

# Народная Воля

**№ 78 (4227)**

3 кастрычніка 2017 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

ПРАГНОЗ

## 18 лютага – выбары дэпутатаў мясцовых Саветаў?

Учора старшыня ЦВК **Лідзія Ярмошына** назвала гэтую дату аптымальнай.

Паводле яе слоў, у 20-х чыслах кастрычніка яна плануе трапіць на прыём да Аляксандра Лукашэнкі для абмеркавання канчатковай даты выбараў і пытанняў іх арганізацыі.

*«18 лютага – гэта апошняя магчымая дата правядзення выбараў*, – адзначыла Ярмошына. – *Я думаю, што раней іх не прызначаць з-за таго, што тады яны супадуць са студэнцкімі канікуламі. А студэнты ўсе галасуюць па месцы вучобы. Мы будзем прасіць менавіта гэту дату, таму што яна ў гэтым плане з'яўляецца аптымальнай».*

БЕЗ РУЖОВЫХ АКУЛЯРАЎ



Аляксандр КЛАСКОЎСКІ, спецыяльна для "Народнай Волі"

## Зноў на «старых конях»?

Ніякіх змен у заканадаўстве перад мясцовымі выбарамі 2018 года, хутчэй за ўсё, не будзе, яны пройдуць па старых правілах. Гэта вынікае з учарашняга адказу старшыні Цэнтрвыбаркама Лідзіі Ярмошынай на пытанне БелаПАН.

*"Ну пра што вы кажаце, калі іх ужо выносіць?* – нібыта нават абурылася пані Ярмошына. І патлумачыла: – *Мы ўжо распрацавалі і 4 лістапада хочам правесці пасяджэнне ЦВК, дзе зацвердзім метадычныя тлумачэнні. Рэкамендацыі БДІПЧ АБСЕ будуць улічвацца толькі ў праваприменяльнай практыцы, там, дзе можна не мяняць закон".*

Самае смешнае, што адна з рэкамендацый БДІПЧ палягае акурат у тым, каб асноўныя аспекты выбарчага працэсу рэгуляваліся законам, а не пастановамі ЦВК.

Увогуле ж не першы раз спадарыня Ярмошына выказваецца ў тым духу, што коней, маўляў, на пераправе не мяняюць. Працэй кажучы, што мала часу да чарговай кампаніі, каб усчынаць ломку законаў.

Але гэтым разам Еўропу "кіданулі" зусім вераломна. Нагадаю, што выніковы даклад БДІПЧ АБСЕ аб назіранні за парламенцкімі выбарамі 2016 года быў гатовы яшчэ летась у снежні.

У тым дакуменце акурат і ўтрымліваліся 32 рэкамендацыі Мінску, як палепшыць выбарчае заканадаўства. У прыватнасці, гаворка ішла пра тое, што трэба стварыць належныя ўмовы для палітычнай канкурэнцыі, павысіць празрыстасць галасавання, у тым ліку праз беспрашкодны доступ назіральнікаў і выразны паказ публіцы кожнага бюлетэня.

Больш за тое, беларускі бок нібыта дэманстраваў гатоўнасць прыслухацца. Прааналізаваць прапановы АБСЕ было даручана адмыслова створанай міжведамаснай экспертнай працоўнай групе. Праўда, ад пачатку бянтэжыла, што група складалася з "гасударевых людей", у яе не захацелі ўключаць, напрыклад, апазіцыйную дэпутатку Палаты прадстаўнікоў **Ганну Канапацкую**.

Тым не меней Ярмошына па выніках працы групы заявіла, што ўлічана блізу 50% рэкамендацый АБСЕ. *"Выніковыя прапановы маюць збалансаваны характар і адпавядаюць рэкамендацыям АБСЕ"*, – запэўніла тады кіраўніца ЦВК.

Праўда, прапановы групы дасюль застаюцца сакрэтам для грамадскасці, так што мяркуецца вялікія падазрэнні, што ўлічаны акурат найменей прынцыповыя моманты.

Але ж хоць нейкія змены – лепей, чым нічога. Так ці інакш, прапановы працоўнай групы яшчэ напрыканцы студзеня ляглі, як заяўлялася, на стол кіраўніка краіны. Хаця сёння высвятляецца, што трапілі яны ў доўгую скрыню.

Напачатку тая ж Ярмошына цвердзіла, што чакаецца адмысловая нарада ў прэзідэнта. І сапраўды, калі б тую нараду правялі аператыўна, то змены ў выбарчае заканадаўства можна было б вынесці яшчэ на мінулую вясновую сесію.

Але тая сесія прайшла, а нарада так і не адбылася. Пры тым што кіраўнік дзяржавы знайшоў час для шэрагу іншых нарад, уключна з той, на якой разглядаліся пытанні развіцця хакея.

Учора адкрылася ўжо асенняя сесія Палаты, але пытаннем пра змены выбарчага заканадаўства на ёй і не пахне. Натуральна, калі б была адмашка, то дэпутаты пракруцілі б адпаведны праект у рэжыме абваранай кошкі. Але адмашкі няма і, мяркуючы па сённяшніх словах Ярмошынай, не будзе.

У чым жа загвадка? Натуральна, слаба верыцца, што за восем месяцаў высокае начальства не знайшло часу між інспекцыямі якасці буракоў да ходу сяўбы трыцікале. Тут спрацавалі іншыя чыннікі.

Па-першае, адбыліся пратэсты "дармаедаў". Наверсе, верагодна, атрымалі вялікі стрэс. А таму хто-ніхто прыкінуў: не выключана, што незадаволенасць часткі электарату адаб'ецца і на кампаніі мясцовых выбараў. Дык нашто даваць нейкія паслабленні апанентам рэжыму?

Яшчэ момант: ёсць версія, што мясцовыя выбары, якія мусяць прайсці не пазней за 18 лютага 2018 года, могуць быць спалучаны з рэферэндумам, на якім паставяць шэраг іншых пытанне пра павелічэнне прэзідэнцкага тэрміну да сямі гадоў. І калі так, то з гледзішча ўлад перад такой адказнай кампаніяй таксама не варта займацца эксперыментамі з выбарчым заканадаўствам.

Па-другое, беларускае начальства ўбачыла, што на разгоны тых самых "дармаедскіх" выступленняў, масавыя арышты Еўропа адрэагавала слабавата. Захад не хоча сёння псаваць трэнд нармалізацыі адносін з афіцыйным Мінскам і таму не надта чапляецца да паводзін Мінска.

На просьбу журналіста распавесці, якія ж менавіта навацыі ў выбарчым заканадаўстве былі пакладзены на стол Лукашэнку, Ярмошына ўчора адказала: *"Я ўжо, шчыра кажучы, і прызабыла іх, мы ліст падавалі ў канцы студзеня".*

Так што з выкананнем хаця б часткі рэкамендацый АБСЕ беларускія ўлады Еўропу цынічна прадынамілі.

ТЭНДЭНЦЫЯ

## Выжываць дапамагаюць крэдыты



За студзень–жнівень аб'ём крэдытаў, выдадзеных беларускімі банкамі на спажывецкія патрэбы, вырас на 41,3%. У той жа час, паводле дадзеных Нацбанка, на 1 верасня запазычанасць фізічных асоб па такіх крэдытах склала рэкордныя 2,43 млрд рублёў і вырасла ў параўнанні з пачаткам года на 709,7 мільёна.

Паводле прагназаў беларускіх эканамістаў, аб'ёмы спажывецкага крэдытавання будуць і далей павялічвацца. *«Унутранае спажыванне дзяржава цяпер разганяе, каб дазволіць насельніцтву кампенсаваць зніжэнне ўзроўню дабрабыту ў 2015–2016 гады. Гэта мэтанакіраваная палітычная задача дзяржавы ў 2017 годзе, і таму ў такіх умовах наўрад ці будуць прымацца меры па абмежаванні ўнутранага попыту, і ў прыватнасці спажывецкага крэдытавання»*, – мяркуе эксперт Беларускага эканамічнага даследча-адукацыйнага цэнтра (BEROC) **Дзмітрый Крук.**

ФАКТ

### Тройка лідараў

Найбольшыя аб'ёмы спажывецкіх крэдытаў выдаюць «Прыёрбанк», «Беларусбанк» і «МТБанк» – на іх долю прыпадае больш за 40% крэдытаў, выдадзеных насельніцтву на спажывецкія патрэбы.

ШЛАГБАУМ!

## Дэманстрацыі не будзе!

*Не намагаўся правесці ў Мінску 7 кастрычніка Беларускі кангрэс дэмакратычных прафсаюзаў (БКДП).*

Аднак адказ з Мінгарвыканкама гэтыя планы сарваў.

*«Мы атрымалі досыць няпэўны адказ*, – паведаміў БелаПАН старшыня БКДП Аляксандр Ярашук. – *Замест дэманстрацыі нам прапаноўваюць правесці масавае мерапрыемства (не ўказваючы, якое канкрэтна) не па заяўленым намі маршруце ад кінатэатра «Кастрычнік» да плошчы Бангалор, а ў трох іншых месцах: на цэнтральнай сцэнічнай пляцоўцы парку Дружбы народаў, у летнім тэатры парку культуры і адпачынку імя 50-годдзя Вялікага Кастрычніка і на пляцоўцы каля фантана ў Кіеўскім скверы».*

Дзеянні Мінгарвыканкама, лічыць Ярашук, не адпавядаюць заканадаўству. *«Нас незаконна прымушаюць да змены фармату мерапрыемства. Гэта чарговае парушэнне правоў прафсаюзаў, якія маюць права арганізоўваць і бесперашкодна праводзіць масавыя мерапрыемствы»*, – сказаў ён.

Дэманстрацыяй 7 кастрычніка БКДП хацеў далучыцца да міжнароднай прафсаюзнай кампаніі. У гэты дзень больш за 300 нацыянальных прафцэнтраў, якія ўваходзяць у Міжнародную канфедэрацыю прафсаюзаў, праводзяць вулічныя дэманстрацыі, шэсці, мітынгі і пікеты з патрабаваннямі забяспечыць людзям годныя ўмовы працы і годны заробак.

ГУЧНАЯ СПРАВА



Фота svaboda.org

## Ігар Комлік – на волі

Бухгалтара прафсаюза РЭП Ігара Комліка выпусцілі са следчага ізалятара пад падпіску аб нявыездзе роўна праз два месяцы пасля затрымання.

Супрацоўнікі Дэпартамента фінансавых расследаванняў Камітэта дзяржаўнага кантролю Беларусі 2 жніўня правялі перагрус і канфіскацыю камп'ютараў і фінансавых дакументаў у офісе прафсаюза РЭП і цэнтральным офісе БНП. Былі затрыманы старшыня РЭП Генадзь Фядыніч і бухгалтар Ігар Комлік. Генадзь Фядыніч быў дапытаны і адпушчаны да суда, а Комліка пакінулі пад вартай. А ўчора выпусцілі і яго…

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

ПРАЦЯГ ТЭМЫ

## Індульгенцыя на расправу

У адным з мінулых нумароў "Народнай Волі" кобрынскі прадпрымальнік Алесь Мех распавёў жудасную гісторыю пра тое, як быў збіты супрацоўнікамі праваахоўных органаў.

Коратка нагадаем яе сутнасць: у сярэдзіне жніўня Мех прыйшоў дамоў да свайго знаёмага Дзмітрыя Чарніцкага, каб па яго просьбе адрамантаваць разеткі. Падчас выканання работы ён выявіў невядомае прысасаванне, якое нагадвала "праслухоўку".

Па выхадзе з кватэры на Меха і Чарніцкага напалі невядомыя людзі ў масках і збілі іх. Як высветлілася пазней, гэта былі супрацоўнікі АМАП. Пасля жорсткага збіцця Мех і Чарніцкі апынуліся ў міліцэйскім пастарунку, дзе на іх склалі пратаколы "за непадпарадкаванне законным патрабаванням супрацоўнікаў праваахоўных органаў".

Пазней быў суд. Чарніцкага аштрафавалі, Меха прызналі невінаватым. Аднак, не пагадзіўшыся з такім рашэннем, міліцэйскае кіраўніцтва Кобрына абскардзіла апраўдальны прысуд у дачыненні да Меха. Алеся чакае новае судовае разбіральніцтва, дата якога на момант напісання гэтага матэрыялу была яшчэ невядомай.

Сам Алесь Мех звярнуўся ва УУС Брэсцкага аблвыканкама, патрабуючы прыцягнуць да адказнасці амапаўцаў, якія яго збілі.

Афіцыйны адказ не прымусіў сябе доўга чакаць. Днямі Алесь Мех атрымаў яго ад выконваючага абавязкі намесніка начальніка УУС Брэсцкага аблвыканкама спадара Мельнікава. Вось некалькі цытат з гэтага адказу. Як кажуць, без каментарыяў: *"Вашы довады аб неправамерных дзеяннях супрацоўнікаў атрада міліцыі асаблівага прызначэння не знайшлі свайго аб'ектыўнага пацвярджэння"*. І далей: *"Супрацоўнік органаў унутраных спраў не нясе адказнасці за шкоду, нанесеную ў выніку прымянення ў прадугледжаных законам выпадках фізічнай сілы, спецыяльных сродкаў, калі ім не перавышаны меры, неабходныя для пераадолення супрацьдзеяння законным патрабаванням супрацоўнікаў органаў унутраных спраў у выпадках, калі негвалтоўнымі спосабамі гэта зрабіць немагчыма".*

– Не дзіўна, што наша міліцыя сваю віну, роўна як і свае памылкі, не прызнае, – гаворыць Алесь Мех. – Хаця для мяне відавочна: у гэтым выпадку быў груба парушаны закон, супраць невінаватых людзей прымянілі сілу, і міліцэйская сістэма пачала сама сябе абараняць. Гэтыя, з дазволу сказаць, вартавыя закона, якія душылі мяне ў цёмным пад'ездзе, засталіся непакаранымі. Гэта значыць, што ў наступны раз яны будуць дзейнічаць таксама, ведаючы, што ніякай адказнасці за свае дзеянні не панясуць.

**– А частка адказу, дзе гаворыцца, што супрацоўнікі АМАП не нясуць ніякай адказнасці за нанесеныя вам траўмы, не здзівіла?**

– Вельмі здзівіла. Асабліва ўлічваючы тое, што пасля здарэння я зняў пабоі. У мяне ёсць усе гэтыя паперы. Калі казаць па-простаму, то душылі мяне так, што ў вачах палопаліся сасуды, вока налілося крывёй… Але гэта, як бачым, усё ў межах закона. Пра што гэта сведчыць? Гэта сведчыць пра тое, што ў праваахоўнікаў і надалей будуць развязаны рукі: хочаш – збівай, хочаш – душы. Сістэма сваіх "адмажа". З гэтай нагоды я магу зрабіць наступную выснову: сённяшняя міліцыя з арганізацыі, якая павінна абараняць людзей, ператварылася ў арганізацыю, якая нясе небяспеку звычайнаму чалавеку.

**– Ці будзеце вы абскарджваць адказ, які прыйшоў з УУС Брэсцкага аблвыканкама?**

– Безумоўна. Абскарджваць яго можна толькі ў Мінску – буду пісаць у Міністэрства ўнутраных спраў Беларусі.

**Віталь ГАРБУЗАЎ.**

ТОЧКА ЗРЕНИЯ



Александр ФЕДУТА

## Каталонский больной зуб и белорусы

Референдум, проходивший в Каталонии, заставляет каждого из граждан Беларуси определиться в своем отношении к проблемам государственного суверенитета и национальной идентичности. Эта штука будет посерьезнее любой Вейшнории.

И вот почему.

Сегодня в мире общепризнанными являются две нормы международного законодательства. Одна из них – наследие старой имперско-колониальной системы – признает приоритет государственных границ и целостности государства. Вторая требует признать за каждой нацией право на самоопределение и создание собственного государства.

Эти нормы входят в очевидное противоречие между собой. Если признать, что целостность государства превыше всего, то в Югославии до сих пор шла бы межнациональная война, да и Советский Союз вряд ли распался бы без «большой крови» (он и распадался-то с кровью, просто потоки ее были бы больше). Если признать право наций на самоопределение краеугольным камнем современной мировой демократии, то любая часть любого государства могла бы провести в любой момент референдум и отделиться. Сработал бы принцип матрешки: раз Великобритания, скажем, состоит из четырех частей – Англии, Шотландии, Уэльса и Северной Ирландии, то она просто рисковала бы развалиться на эти самые четыре части.

То же и с Испанией. И дело вовсе не в каких-либо национальных противоречиях внутри страны. Нет. Ничего, кроме экономики. Правительство Мариано Рахоя отняло у Каталонии право оставлять у себя НДС и ряд других налогов, а у каталонцев – право зваться нацией. Думается, сейчас право зваться нацией премьер-министр Рахой, наверное, согласился бы оставить, чтобы уж не провоцировать скандалов. Но первое решение – по налогам – было весьма ощутимым ударом. Один из семнадцати исторических регионов Испании, Каталония дает пятую часть национального бюджета. Разумеется, каталонцы обиделись. И – опять-таки, разумеется, само собой, – Мадрид не может отпустить дойную корову из стада, ибо телята просто рискуют помереть с голода.

Вы спросите меня: при чем здесь белорусы? Все очень просто. Нельзя подходить к таким сложным вопросам, как национально-государственный, с позиции двойных стандартов. Тут или-или. Абхазы – народ? Тогда имеют они право на собственное государство? А Крым – его жители имеют или нет? И в любом случае – а почему? Попытайтесь найти ответ, и вы увидите, как это сложно. И спрятаться за правовые формулировки вроде «федеративное государство», «конфедерация», «унитарное государство» невозможно. Не работают они. Два фундаментальных принципа – без нюансов.

И всегда было сложно искать ответы на эти и подобные вопросы. Не зря, например, Георгий Плеханов называл национальный вопрос «больным зубом социал-демократии»: прикоснись слегка – усуть не сможешь.

Мы все смеялись по поводу пресловутой «Вейшнории», которая якобы напала на территорию ничуть не более реального «Союзного Государства России и Беларуси». Но давайте посмотрим на карту: именно на территории этой воображаемой Вейшнории компактно проживает польское этническое меньшинство. Предположим, что завтра его представители (напомню: референдум в Каталонии проводило вполне легитимное региональное правительство) решают провести референдум о …

И…? И что мы все тогда делать будем? Потому что принцип «чемодан – вокзал – Варшава» тут не срабатывает: они испокон веков жили на этой земле, о чем кладбища и исторические памятники свидетельствуют. У них на эту землю ничуть не меньше прав, чем у каждого из нас. И что будет?

На самом деле логическая задача проста. Нужно встать на одну из точек зрения и придерживаться ее: приоритет государственной целостности либо приоритет национального выбора. В этом отношении Александру Лукашенко проще: сказав себе «Государство – это я», он выбор сделал вслед за Людовиком XIV. Понятно, что теперь он не может признать ни Абхазию с Южной Осетией, ни Приднестровье, ни Карабах, ни Крым, ни Каталонию… Вне зависимости от того, в каких матримониальных отношениях с Россией или с Западом видит он Беларусь. Грузия должна быть целостной, Украина, Сербия, Испания и Молдова тоже. Всё.

Но Лукашенко – это власть. Я – не власть. Но тоже определился. Я – за государственную целостность. Посему, увы, не могу признать ни спектакля-референдума в Крыму, ни тем паче ДНР и ЛНР. Но и каталонский референдум не признаю. Так что больше вопросов подобного рода прошу мне не задавать. Лучше сразу к стоматологу ехать.

ДЭМАКРАТЫЯ ПА-БЕЛАРУСКУ

## Да Міколы Статкевіча не пускаюць адваката

Пра гэта "Народнай Волі" распавяла жонка палітыка – Марына Адамовіч. Статкевіч, як вядома, адбывае адміністрацыйны арышт у Цэнтры ізаляцыі правапарушальнікаў.

– Цягам двух дзён на мінулым тыдні адвакат так і не змог трапіць да Міколы, – *распавядае Марына Адамовіч.* – Спачатку сказалі, што быццам бы ўсе пакоі для сустрэч з арыштаванымі заняты. На наступны дзень адвакат быў першым, хто прыйшоў на сустрэчу са сваім падабаронным, – адмовілі, сказаўшы, што ўбачыць Статкевіча яму ўсё роўна не ўдасца. Таму ў панядзелак 2 кастрычніка адвакат нават і не спрабаваў патрапіць да Міколы.

Ніякіх звестак пра стан здароўя мужа, пра акалічнасці яго знаходжання пад арыштам у мяне няма. Нягледзячы на тое, што я перадала Міколу чыстыя аркушы і канверты, ніводнага ліста ад яго так і не атрымала. Не ўпэўнена, што Статкевічу аддалі ўсё гэта.

**– Вы напісалі ліст генпракурору Беларусі Аляксандру Канюку. Ці ёсць адказ?**

– Я не разлічвала на аператыўнасць. Магчыма, адказ прыйдзе праз месяц і ў ім будзе напісана, што ніякіх парушэнняў не выяўлена. Звычайная практыка. Зараз думаю толькі пра адно: хутчэй бы гэты кашмар скончыўся.

*Мікалай Статкевіч павінен выйсці на волю 7 кастрычніка.*

**Антон ВІТАЛЬЕЎ.**

